**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№6(670)**
**7 лютага 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





Новы год – і госці зранку
Прыляцелі ў сад да Янкі,
Снег ідзе, мароз трашчыць,
Цяжка птушкам бедным жыць.
У кармушках каля хаты –
Крошкі хлеба і зярняты.
Тут сініцы, снегіры,
Хоць у рукі іх бяры:
Не баяцца госці-птушкі
Тых, хто робіць ім кармушкі.
І малюе іх даўно
Янка, гледзячы ў акно.
Новы год – мароз трашчыць,
Ды лягчэй і птушкам жыць.

*Міхась Сазончык*

Photo ByMedia.net

### Верхнядзвінскі раён

## Дзеці вогненных вёсак

■ Станіслаў Раманчук

**Нават не многія ў Беларусі ведаюць, што падчас Другой сусветнай вайны найбольш у краіне пацярпеў Верхнядзвінскі раён, практычна сцёрты з твару зямлі, у якім забіта было болей паловы насельніцтва.**

Напрыканцы зімы сёлета споўніцца 70 гадоў, калі ў выніку злачыннай аперацыі “Зімовае чараўніцтва” гітлераўцы знішчылі ўсю жывую прастору ад Асвеі да тагачаснай Дрысы (цяпер Верхнядзвінск). З гэтай нагоды ў пачатку вясны ў райцэнтры намечана навукова-практычная канферэнцыя з удзелам нямногіх уцалелых дзяцей тых вогненных гадоў. Нават у сённяшняй Германіі прыйшлі да жаху, калі даведаліся аб маштабах такіх ваенных злачынстваў супраць мірнага насельніцтва. Пры партнёрстве Беларускага фонду міра дабрачынная арганізацыя з Берліна “Кантакты” аказала аднаразовую матэрыяльную дапамогу больш чым двухстам жыхарам спаленых дашчэнту вёсак, якім цудам удалося выжыць. Іх спісы склалі мясцовыя краязнаўцы пры падтрымцы мясцовых улад. Кожнаму жыхару раёна, сведку тых жудасных падзей, у рамках спецыяльнага праекта “Павышэнне статусу жыхароў спаленых вёсак” нямецкі бок даслаў таксама спецыяльны ліст-пасланне і папрасіў прабачэнне ад сённяшнага пакалення прагрэсіўных немцаў за дастаўленыя пакуты. Добра, што дзеянне гэтага праекта будзе прадоўжана і надалей. Немцы, прызнаючы сваю адказнасць за наступствы фашысцкай тыраніі, прадоўжаць кантакты з беларусамі, розныя сустрэчы пакаленняў, азнаямленчыя паездкі і аказанне дапамогі беларусам з вогненных вёсак у вырашэнні іх бытавых праблем.

### Пастаўскі раён

## Яшчэ адно наваселле

■ Кастусь Александровіч

**Пачатак гэтага года азнаменаваўся ў Пастаўскім раёне адкрыццём адразу трох значных аб’ектаў сацыяльнай сферы**

. Найперш тут пачаў дзейнічаць у райцэнтры ў адным з мікрараёнаў аб’ект прыдарожнага сервісу на трасе на Браслаў – кафэ-карчма “Церамок”. Паблізу яго ўрачыста адкрылі потым дзіцячы плавальны басейн для навучання дзетак плаваць пры дзіцячым садзе “Крынічка”. Далей напрыканцы студзеня надышла чарга пераразаць па традыцыі чырвоную лентачку ў аграгарадку Дунілавічы. Тут у рамках выканання нацыянальнай комплекснай праграмы развіцця сацабслугоўвання на 2011-2015 гады пабудавалі новы жылы корпус на 105 месц для мясцовага псіханеўралагічнага дома-інтэрната для састарэлых і інвалідаў. Установ падобнага профілю толькі на Віцебшчыне працуе 10, але трохпавярховы будынак у гэтым мястэчку адпавядае самым сучасным патрабаванням. Работы па рэканструкцыі інтэрната ў Дунілавічах вяла мясцовая будаўнічая фірма “Рассвет Пастаўскі” з прыцягненнем іншых субпадрадных арганізацый. На тое, каб прытулак для людзей са складаным лёсам атрымаўся светлым, цёплым і ўтульным, было патрачана з бюджэту больш 36 млрд. рублёў. Будаўнікі шчыравалі тут на працягу паўтара года і ўзвялі прыгожы будынак, які не ідзе ні ў якое параўнанне з ранейшымі пабудовамі барачнага тыпу. Дарэчы, яны прадоўжаць працу тут і сёлета, бо патрэбна пабудаваць і новы медыцынскі блок для пацыентаў інтэрната коштам яшчэ 5 мільярдаў.

### Гарадоцкі раён

## Ільічу не шанцуе

■ Чэслаў Якубовіч

**Неспадзявана для многіх у Віцебскай вобласці месцам правядзення ў 2014 годзе традыцыйнага рэспубліканскага фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі “Дажынкі” зацвердзілі Гарадок.**

Гэты раён не з’яўляецца перадавым у Прыдзвінні па развіццю сельскай гаспадаркі, наадварот ён хутчэй адносіцца да адстаючых. А вось сам райцэнтр цяпер можа атрымаць другое дыханне і сур’ёзна папрыгажэць, калі атрымае на падрыхтоўку да хлебаробскага свята звыш 2 трыльёнаў рублёў грошай. Сярод найбольш значных аб’ектаў плануецца пабудаваць для гараджан сучасны плавальны басейн і лыжа-ролерную трасу для спартсменаў на схілах мясцовых Вараб’іных узгоркаў. А вось галоўнаму атрыбуту цэнтральных плошчаў беларускіх гарадкоў – помніку Леніна, як і ў Глыбокім, не пашанцавала. Манумент правадыру бальшавікоў проста замінаў дэкарацыям галоўнай сцэны “Дажынак”, хоць год назад падвергся рэканструкцыі. Таму зусім зносіць жалезную фігуру таварыша Ульянава ў Гарадку не будуць. У выніку праведзенага апытання гараджан большасць з іх пагадзіліся, каб бронзавы Ленін перабраўся да мясцовай школы мастацтваў, у карыдорах якой раней адчуваўся дух райкама КПБ-КПСС. А асобныя грамадзяне навогул жадалі, каб Ільіча перанеслі, як мага далей ад іх вачэй – да будынка аўтастанцыі, у гарадскі парк і нават да дома ветэранаў, якім па-ранейшаму дорага савецкае мінулае.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 31.01.13 | | | | Пятніца 01.02.12 | | | | Субота02.02.13 | | | | Нядзеля 03.02.11 | | | | Пнд 04.02.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -1 | 0 | 0 | -1 | -1 | 0 | +1 | 0 | +1 | +4 | +6 | +2 | 0 | 0 | +1 | -1 | -2 | -2 | 0 |
| Ціск | 739 | 739 | 742 | 742 | 741 | 740 | 740 | 740 | 740 | 740 | 742 | 742 | 742 | 742 | 743 | 745 | 747 | 748 | 749 |
| Вільготнасць | 96 | 96 | 90 | 94 | 97 | 98 | 89 | 91 | 95 | 97 | 84 | 90 | 92 | 89 | 76 | 85 | 85 | 87 | 58 |
| Вецер м/сек | 5 Пд-У | 5 Пд | 2 Пд-У | 3 У | 4 У | 5 У | 4 У | 3 У | 5 Пд-У | 8 Пд-У | 4 Пд | 1 З | 3 З | 2 З | 5 Пд-З | 4 Пд-З | 4 Пд-З | 2 Пд | 1 З |

### Аб самым надзённым

Аляксандр Лукашэнка:

## Па меры росту зарплаты паўстане пытанне пра платную ахову здароўя

■ Анастасія Янушэўская, БелаПАН

**«Людзі ў Беларусі не прывыклі клапаціцца пра сваё здароўе: «У нас можна напіцца, нагу зламаць, потым дзяржава за кошт іншых людзей лечыць, можна ў сувязі з курэннем значна пагоршыць здароўе». Калі на Захадзе насельніцтва плаціць за сваё здароўе, то ў Беларусі пакуль да гэтага не гатовы, зазначыў кіраўнік дзяржавы. «Вядома, мы да гэтага не гатовы — запатрабаваць ад насельніцтва поўнай аплаты за ўтрыманне ў бальніцах, за лячэнне і гэтак далей. Аднак, дадаў ён, па меры росту зарплаты гэтае пытанне, вядома ж, калі-небудзь паўстане.**

Па меры росту заработнай платы ў Беларусі паўстане пытанне пра платную ахову здароўя, заявіў Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы з міністрам аховы здароўя Васілём Жарко 4 лютага. Паводле слоў Лукашэнкі, людзі ў Беларусі не прывыклі клапаціцца пра сваё здароўе: «У нас можна напіцца, нагу зламаць, потым дзяржава за кошт іншых людзей лечыць, можна ў сувязі з курэннем значна пагоршыць здароўе». Калі на Захадзе насельніцтва плаціць за сваё здароўе, то ў Беларусі пакуль да гэтага не гатовы, зазначыў кіраўнік дзяржавы. «Вядома, мы да гэтага не гатовы — запатрабаваць ад насельніцтва поўнай аплаты за ўтрыманне ў бальніцах, за лячэнне і гэтак далей. Не гатовы», — цытуе Лукашэнку прэс-служба прэзідэнта. Аднак, дадаў ён, па меры росту зарплаты гэтае пытанне, вядома ж, калі-небудзь паўстане. Асноўнай тэмай абмеркавання на сустрэчы Лукашэнкі з Жарко стаў праект закона аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у закон «Аб ахове здароўя», паведамляе прэс-служба. Кіраўнік дзяржавы выказаў здзіўленне тым, што новаўвядзенні прадугледжваюць «пэўныя траты дзяржаўнага бюджэту».

«Па-першае, мяне гэта здзіўляе, таму што міністр пра гэта казаў, і ва ўрадзе гучаць прапановы аб тым, каб хаця б частку расходаў на ахову здароўя перанесці на саміх людзей. А тут прапаноўваецца трата яшчэ дадатковых сродкаў за пэўныя працэдуры ў бальніцах дзённага ўтрымання і гэтак далей. Гэта неяк дысануе з вашымі прапановамі», — заўважыў Лукашэнка. Ён выказаў сумненне ў неабходнасці дадатковых трат, прадугледжаных у законапраекце. «Ці не будуць мець гэтыя змены эфект ланцуговай рэакцыі? Сёння — урачу, заўтра — скажа настаўнік, ён мае права так паставіць пытанне па некаторых прапановах, якія вы ўносіце. Таму трэба вельмі акуратна падыходзіць да гэтых рэчаў, якія цягнуць за сабой не мільярды нават, а трыльёны рублёў на забеспячэнне гэтых мерапрыемстваў», — падкрэсліў Лукашэнка. Ён распарадзіўся «замацаваць на цяперашнім узроўні» і пры гэтым — «забяспечыць якаснае лячэнне людзей і нармальныя да іх адносіны».

У сваю чаргу Жарко запэўніў, што Міністэрства аховы здароўя праводзіць сістэмную працу па эканомным расходаванні грашовых сродкаў на ўтрыманне лячэбных установ і на мадэрнізацыю. Паводле яго слоў, новы законапраект прадугледжвае шэраг дапаўненняў у частцы прафілактыкі захворванняў, аховы рэпрадуктыўнага здароўя і ўрачэбнай тайны. У прыватнасці, прапануецца пашырыць пералік асоб, якім будзе паводле іх запытаў выдавацца гэтая інфармацыя. Апрача таго, будуць пашыраны віды аказання медыцынскай дапамогі, у тым ліку пацыентам дома. Змяненні таксама прадугледжваюць кампенсацыю сродкаў за аказанне меддапамогі ў лячэбных установах грамадзянамі, якія нанеслі ўрон свайму здароўю ў выніку ўжывання алкаголю ці наркатычных сродкаў.

## Дзень за днём

**Для паскарэння мадэрнізацыі ўсім беларускім прадпрыемствам з дзярждоляй павялічылі да 20 % адлічэнні ў бюджэт ад прыбытку. Да кіравання краінай зноў вярнуліся на ключавыя пасады старыя, правераныя кадры Пётр Пракаповіч і Віктар Шэйман. Рост спажывецкіх цэн і платных паслуг у студзені для беларусаў перавысіў 2 % сёлета, хоць урад мае планы ўтрымаць інфляцыю ў 2013 годзе ў межах 12 %. Будаўніцтва жылля ў краіне сур'ёзна летась зменшылася на 18,2 % і толькі Мінск стаў лідарам, пабудаваў 14,4 тысяч новых кватэр. У Беларусі скароцяць аб'ёмы тэле- і радыёрэкламы па новаму заканадаўству, а ў беларускіх цягніках забаранілі курыць і адмянілі льготы для бацькоў з дзецьмі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Алжыр.** Дзясяткі заложнікаў, захопленых мусульманскімі тэрарыстамі, з розных краін свету загінулі падчас аперацыі па іх вызваленні на газавым радовішчы Ін Аменас.

**Шатландыя.** Верхняя Палата лордаў Вялікабрытаніі ўслед за ніжняй дазволіла шатландцам правесці рэферэндум аб незалежнасці і выхадзе са складу Каралеўства.

**ЗША.** Паўторна абраны прэзідэнт Барак Абама пачаў узмацненне кантролю за продажам зброі ў краіне і ініцыяваў шэраг абмежавальных мер на заканадаўчым узроўні.

**Сірыя.** Нават генсек ААН Пан Гі Мун абвінаваціў правячы рэжым у новых "ваенных злачынствах", сам дыктатар Башар Асад стаў хавацца на расійскім ваенным караблі.

**Турцыя.** На граніцу з Сірыяй прыбылі 240 ваенных спецыялістаў з Германіі для абароны турэцкай тэрыторыі ад новых магчымых ракетных абстрэлаў з сірыйскага боку.

**Японія.** Новы ўрад краіны пачаў праграму стымулявання росту японскай эканомікі на 116 мільярдаў долараў і стварэння 600 тысяч новых працоўных месцаў, аднаўлення ад удару цунамі.

**Венесуэла.** Афіцыйныя дадзеныя аб здароўі прэзідэнта сталі разыходзіцца з інфармацыяй іншых крыніц: стан Уга Чавеса стаў крытычным пасля быццам інфаркту, быў у коме.

**Лівія.** У горадзе Зідан пачаўся суд над сынам звергнутага летась дыктатара Сейфам аль Ісламам Каддафі, хутчэй усяго яго на радзіме чакае смяротны прыгавор, у Гаазе - турма.

**Дубай.** Услед за дачкой дыктатара Сірыі Башара Асада Бушрой пакінула сваю краіну і ўцякла сюды жыць у выгнанні маці пакуль яшчэ сірыйскага прэзідэнта Аніса Маклух.

**Украіна.** Генпракуратура стала пагражаць экспрэм'еру Юліі Цімашэнка новым пажыццёвым зняволеннем, улады хочуць не дапусціць яе вяртанне ў вялікую палітыку.

**Аўстрыя.** На рэферэндуме жыхары краіны прагаласавалі за захаванне прызыву ў армію на працягу службы 6 месяцаў, як служаць у Даніі, Нарвегіі, Фінляндыі, Грэцыі, Швейцарыі.

**Малдова.** Па дадзеных апошніх сацыялагічных даследванняў, большасць жахароў краіны (52 %) падтрымліваюць намеры ўрада аб далучэнні малдаван да Еўрапейскага саюза.

**ЗША.** Таленавіты і вельмі адораны 9-гадовы хопчык з Індыі здаў экзамены і стаў спецыялістам кампаніі Microsoft, ён ужо выдатны праграміст, піша розныя праграмы.

**Швецыя.** Цудам не пацярпелі жыхары 3-кватэрнага дома ў прыгарадзе Стакгольма, у які ўрэзался 20-гадовая шведка-прыбіральшчыца на ўгнаным ёй … пасажырскім цягніку.

**Расія.** Праводзіць аб'яднаны чэмпіянат СНД па футболе немагчыма, заявіў прэзідэнт ФІФА Й. Блаттэр, гэта супярэчыць прынцыпам арганізацыі футбольнай гаспадаркі свету.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Ля Вечнага агню на плошчы Перамогі раніцай загарэўся 50-гадовы бомж, які тут грэўся і заснуў, мужчына атрымаў 30 % апёку цела і быў дастаўлены ў бальніцу.

**Ліда.** На мясцовым прадпрыемстве "Нёман" распрацавалі новую мадэль пасажырскіх аўтобусаў палепшанай камфортнасці на 44 месцы для гарадскіх і пасажырскіх перавозак.

**Мінск.** Вядомы эканаміст Сяргей Чалы пацвердзіў, што ніякіх шанцаў няма ва ўрада Беларусі дасягнуць у 2013 годзе зацверджаных тэмпаў росту ВУП у памеры 8,5 %.

**Горкі.** Улады сталіцы "Дажынак" згодныя выплаціць кампенсацыю за урон здароўю сям'і, якая праваліілася пад зямлю на глыбіню да 2 метраў на адной з галоўных вуліц райцэнтра.

**Мінск.** Антыкрызісны фонд ЕўрАзЭС затрымаў пералічэнне Беларусі 440 мільёнаў долараў 4-га траншa стабілізацыйнага крэдыту, па пастаўках нафты з Расіі адкладваліся перамовы.

**Бяроза.** Упершыню ў СНД на сыраробным камбінаце запусцілі лінію па ўпакоўцы сыроў мяккім вакуумам прама з расолу, пачалі адгрузку сваёй прадукцыі ў Кітай і Туркменію.

**Мінск.** З паказчыкам 13,9 смерці на тысячу чалавек насельніцтва Беларусь, па справаздачы ЦРУ ЗША, выйшла на 12-е месца ў свеце, мужчыны-беларусы жывуць 66 гадоў, жанчыны -77.

**Брэст.** У абласным цэнтры вырашылі ўстанавіць помнік ураджэнцу горада – прэм'ер-міністру Ізраіля з 1977 па 1983 гады, лаўрэату Нобелеўскай прэміі міру Менахему Бегіну.

**Светлагорск.** Самы сучасны і адзіны на Гомельшчыне японскі тамограф коштам 11,7 млрд. рублёў запусцілі ў райбальніцы, ён можа абследваць у дзень да 25 пацыентаў.

**Баранавічы.** Вечарам у хляве маці знайшла цела 17-гадовага сына, студэнтазавочніка сельскагаспадарчага каледжа, які павесіўся па нявысветленых пакуль прычынах.

**Крупкі.** У канцы сакавіка тут і у Беразіно, Асіповічах запусцяць пробнае камерцыйнае лічбавае эфірнае тэлевяшчанне: за плату стануць даступны яшчэ 28 тэлеканалаў, усяго 35.

**Жлобін.** Прама на рабочым месцы буфетчыцы аднаго з бараў райцэнтра міліцыя знайшла тайнік з марыхуанай, яна з мужам займалася наркабізнесам, дома мела запас наркотыкаў.

**Гродна.** Ва ўзросце 43 гады загінуў паэт і карэспандэнт Беларускай службы Польскага радыё Юрый Гуменюк, выпаў вечарам з 9-га паверха мясцовага інтэрната ля свайго дома.

**Мінск.** Другое па ліку ўнікальнае выданне "Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI стагоддзя", падрыхтаванае вучонымі НАН Беларусі, пабачыла свет.

**Бяроза.** Пасля здымак на расійскім 1-м тэлеканале папулярным дуэтам Зоі і Валеры з вёскі Зарэчча зацікавілася англійская тэлекарпарацыя Бі-бі-сі, іх папулярнасць імклівa расце.

# Тарыфы на электраэнергію з 1 лютага вырастуць на 18%



■ Аксана Рудовіч

**Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове Савета Міністраў №63 ад 26 студзеня 2013 года.**

Згодна з дакументам, электрычная энергія ў жылых дамах (кватэрах), абсталяваных ва ўстаноўленым парадку электрычнымі плітамі, па аднаставачным тарыфе з 1 лютага будзе каштаваць 324,9 рубля за 1 кВт•гадз (цяпер - 274,4 за 1 кВт• гадз), па дыферэнцыраваным тарыфе -- 227,4 за 1 кВт•гадз у перыяд мінімальных нагрузак з 22.00 да 17.00 (цяпер - 192,1 рубля) і 649,8 за 1 кВт•гадз у перыяд максімальных нагрузак з 17.00 да 22.00 (цяпер - 548,8 рубля). Электраэнергія для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння з далучанай магутнасцю абсталявання больш за 5 кВт падаражэе да Br382,4 за 1 кВт•гадз у перыяд мінімальных нагрузак з 23.00 да 6.00 (цяпер - Br323) і да Br1147, 2 за 1 кВт•гадз у астатні час сутак (цяпер - Br969). Электрычная энергія, за выключэннем указанай у папярэдніх выпадках, па аднаставачным тарыфе з 1 лютага абыдзецца жыхарам краіны ў 382,4 рубля за 1 кВт•гадз (цяпер - Br323), па дыферэнцыраваных тарыфах - Br267,7 за 1 кВт•гадз у перыяд мінімальных нагрузак 22.00 да 17.00 (цяпер - Br226, 1) і Br764,8 за 1 кВт•гадз у перыяд максімальных нагрузак з 17.00 да 22.00 (цяпер - Br646). Папярэдні раз тарыфы на электраэнергію для насельніцтва былі павышаны з 1 студзеня 2013 года.У Беларусі з 1 лютага 2013 г уводзіцца дыферэнцыяваная аплата за электраэнергію і газазабеспячэнне.Гэта прадугледжана пастановай Савета Міністраў №52 ад 23 студзеня 2013 года. Згодна з дакументам, устанаўліваецца трохступеньчатая сістэма тарыфаў у залежнасці ад аб'ёмаў спажывання электраэнергіі і газу.Да прыкладу, для грамадзян, якія пражываюць у дамах, абсталяваных электраплітамі, пры штомесячным спажыванні да 250кВт•гадз электраэнергіі аплата будзе праводзіцца па тарыфах, установленых заканадаўствам.Пры спажыванні ад 250 да 400 кВт•гадз уключна - па ўстаноўленых тарыфах з прымяненнем павышальнага каэфіцыента 1,3, але не вышэй за тарыфы, якія забяспечваюць поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных затрат на іх аказанне. Калі спажыванне электраэнергіі перавышае 400 кВт•гадз у месяц, аплата будзе браца па тарыфах, што забяспечваюць поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных затрат на іх аказанне.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** У сувязі з моцнымі снегападамі і складанымі ўмовамі надвор'я хуткасць руху на трасе М1 ад горада да граніцы з Мінскай вобласцю часова абмежавалі да 90 км у гадзіну.

**Віцебск.** Следства знайшло бясспрэчныя доказы, што летась восенню маладога таксіста забіў 41-гадовы раней судзімы за ўгон аўтамабіля жыхар горада, каб завалодаць грашмі.

**Полацк.** Сучасным арыгінальным кафэ на 156 пасадачных месцаў пасля капітальнай рэканструкцыі стала ў мясцовым дзяржуніверсітэце былая сталовая № 1 з буфетам, барам.

**Журжава.** На месцы недабудаванага кінатэатра былой авіячасці паўстаў сучасны цэнтр-спарткомплекс адзінаборстваў абласной школы вышэйшага спартыўнага майстэрства.

**Талачын.** Будаўнікі з Украіны вярнулі да жыцця закінутую ферму па адкорму бычкоў у вёсцы Воласава на племзаводзе "Рэканструктар", пачалі ўзводзіць тут сучасны кароўнік.

**Браслаў.** На пагранпераходзе "Урбаны" ў вадзіцеля-расіяніна быў канфіскаваны яго мікрааўтобус "ДАФ 400", на якім нелягальна ў тайніках вёз за мяжу 3410 пачак цыгарэт.

**Лепель.** Дваіх беспрацоўных з райцэнтра суд пакараў за браканьерскую лоўлю рыбы на возеры 4-мя сеткамі і вылаў 10,2 кг рыбы штрафам амаль па 7 млн. рублёў кожнага.

**Віцебск.** З сур'ёзнымі апёкамі цела трапіў у бальніцу пенсіянер, які ў сваім гаражы збіраў самаробны трактар і ў выніку неасцярожнага абыходжання з агнём падпаліў сябе, пажар таксама пашкодзіў тэхніку.

**Навапалацк.** Да радасці гараджан стала не пазнаць пасля капрамонту гарадскую лазню № 1, у абноўленым кінатэатры "Мінск" акрылася кафэ, устанавілі апаратуру для фільмаў 3D.

**Віцебск.** На слізкай дарозе раніцай паблізу вёскі Астроўскія не справіўся з кіраваннем аўтамабіля "ГАЗ-66" 25-гадовы кіроўца, зляцеў у кювет, перакуліўся і загінуў на месцы.

**Глыбокае.** За пакушэнне на забойства ад 6 да 15 гадоў турмы пагражае 42-гадоваму жыхару вёскі Залессе, які на падпітку ўдарыў нажом у жывот 14-гадовага падлетка.

**Дуброўна.** На трасе на Смаленск паблізу расійскай граніцы міліцыя затрымала 35-гадовага беспрацоўнага з Оршы, які на мікрааўтобусе перавозіў без дакументаў 20 тон металалому.

**Віцебск.** У шматпакутным ФК "Віцебск" адправілі ў адстаўку дырэктара В. Сталбіцкага, каманду пакінулі ў межсезонне шэраг вядучых футбалістаў, галоўны трэнер Ю. Канаплёў.

**Шуміліна.** З кватэры жыхара райцэнтра ўкраў камп'ютар, 2 мабільныя тэлефоны, скураную куртку … 26-гадовы сын, які прыехаў у госці з Гомеля, ужо судзімы за разбой.

**Віцебск.** Адразу ў трох залах Мастацкага музея адкрыліся дзве выставы больш 100 карцін аб Прыдзвінні вядомых мастакоў, прысвечаных 75-годдзю ўтварэння Віцебскай вобласці.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# «Докшыцы – на мыла!»

**Хакей з мячом. Беларусь — Нарвегія — 0:11**
**На чэмпіянаце свету па хакеі з мячом зборная Беларусі, саступіўшы камандзе Нарвегіі ў матчы за 5-е месца з лікам 0:11, згубіла месца ў элітным дывізіёне. Беларусы прайгралі ва ўсіх шасці матчах, з розніцай мячоў 6–107.**

Памятаецца, даўно, ужо вельмі даўно, у сярэдзіне 1960-х- пач. 1970-х гг, у Глыбокім адбываліся занальныя спаборніцтвы па хакеі з мячом. Прыязджалі: Докшыцы, Паставы, Браслаў, Мёры, Шаркоўшчына, можа яшчэ хто... Ідучы са школы, заходзіў на гарадскі стадыён, дзе й быў той каток, на якім адбываліся спаборніцтвы. Падыходжу неяк і чую яшчэ здалёк, як маса народу раве: «Докшыцы – на мыла!». Глыбокае-Докшыцы – 17:0. Як цяпер было! Ды й Глыбокае-Паставы – амаль ніякіх шанцаў у гасцей, Глыбокае-Браслаў – тое самае.

Не, спадарства, я не хачу пакрыўдзіць ні Браслаў, ні Мёры, ні Докшыцы... Докшыцы, дык наогул – сухапутны горад, дзе ўжо там было развіваць хакей з мячом! Глыбокае ж – на азёрах. На Кагальным – пару катком, зразумела, саматужных, хлопцамі зробленых, на Вялікім возеры – сама меней пяць, яшчэ на Падлазным – адзін. А ў нас, хлопцаў з вуліцы Розы Люксембург (цяперашняя частка вул. Маскоўскай ад пераезда да самалёта П. Сухога), свой – на балоце, дзе сёння райпалізбыт. Ну й на гарадскім стадыёне – галоўны, камунальнікамі дагледжаны. Я, проста, хачу адзначыць, што тады, у 1960-я-1970-ыя гг, хакей з мячом на Беларусі рэальна існаваў. Праводзіліся занальныя спаборніцтвы, пераможцы гэтых спаборніцтваў ехалі на абласныя, пераможцы абласных – на рэспубліканскія. У краме, каля чыгуначнага пераезду, існаваў спартыўны аддзел. Усё, што пажадаеш: лыжы, канькі, клюшкі, мячы, шайбы..., «бяры – не хачу»!

Дзе і ў якім калгасе набіралі сённяшнюю зборную Беларусі па хакеі з мячом? Я думаю, каб даўняя зборная Глыбокага гуляла сёння з той жа зборнай Нарвегіі, то глыбачане так бы багата не абкакаліся, як зборная РБ! Ну, прайгралі б – 0:5.

Каб ехаць на Чэмпіянат Свету, то, рэальна, хакей з мячом у краіне трэба развіваць. Мо лепш было б не мроіць аб фантастычным праекце – Лядовы палац у Глыбокім, а абсталяваць у тых жа Докшыцах, Паставах, Мёрах, Шаркоўшчыне, Браславе і ў Глыбокім – адкрытыя лядовыя пляцоўкі для хакея з мячом. Зразумела, са штучнай падтрымкай лядовага стану. Мінімальныя затраты! Летам не трэба выдаткоўваць сродкі, у мароз зімой – таксама, ну, калі толькі падчас адлігі.

*Уладзімір Скрабатун*

**P.S.** На згаданую вышэй тэму аўтар гэтых радкоў пакінуў свой каментар на сайце газеты «Наша Ніва». Нехта спадар Алесь Марысевіч пакінуў свой каментар на мой каментар:

«Паважаны Спадар Уладзімір! Я Вам адкажу. Гэтая «Зборная Беларусі» не мае ніводнага беларуса ў сваім складзе. Фарміруецца адзін раз на год, непасрэдна перад фінальнай часткай ЧС (1 або 2 дывізіён). Усе гульцы выступаюць за расейскія клубы або нават гуляюць у канадскі хакей.

Таму, здаецца, настаў час, каб зрабіць адпаведныя высновы і правесці рэформу. Стварыць свой невялічкі рэспубліканскі чэмпіянат сярод малых населеных пунктаў (Глыбокае, Докшыцы, Узда, Смалявічы, Лагойск і г.д.), дзе, безумоўна, будзе большая цікаўнасць гледачоў да бэндзі[1]. Хай ён не будзе мець спачатку прафесійны статус, але пакрышачку вырошчваць сваіх спецыялістаў, гульцоў, а праз некаторы час паспрабаваць выйсці ў вышэйшы дывізіён і замацавацца там».

[1] іншая назва хакея з мячом.

# Ярмошына заявіла, што сельсаветы могуць скасаваць

**Паводле яе словаў, магчымасць ліквідацыі сельскіх і пасялковых саветаў абмяркоўвалася на нарадзе ў Аляксандра Лукашэнкі, прысвечанай змяненню выбарчага заканадаўства.**

Падчас інтэрв'ю тэлеканалу «Беларусь-1» старшыня ЦВК заявіла, што скасаванне сельскіх саветаў магчымае, бо там «вельмі цяжка знайсці будучых кандыдатаў у дэпутаты і забяспечыць потым работу гэтых прадстаўнічых органаў, якія валодаюць даволі невялікімі паўнамоцтвамі».

Апошнія выбары ў мясцовыя саветы у Беларусі праводзіліся ў 2010 годзе. Тады абіраліся дэпутаты ў 1288 сельскіх (15342 дэпутаты) і 56 пасялковых (754) саветах.

Наступныя выбарыя запланаваныя на 2014 год. Па словах Ярмошынай, усе змены ў выбарчае заканадаўства павінны завяршыцца да сярэдзіны лістапада 2013 года, каб ужо ў снежні распачаць падрыхтоўку да новай выбарчай кампаніі.

# Больш чым 26 млрд. рублёў паступіла ў бюджэт Віцебскай вобласці па выніках падатковых праверак суб'ектаў гаспадарання ў 2012 годзе

**Падатковымі інспекцыямі Віцебскай вобласці за 2012 год па пытаннях, што ўваходзяць у кампетэнцыю падатковых органаў, правераны 7.732 дзейныя суб'екты гаспадарання.**

Як паведамляе прэсцэнтр Міністэрства па падатках і зборах, парушэнні заканадаўства аб падатках і прадпрымальніцтве ўстаноўлены ў 7.567 выпадках. Удзельная вага плацельшчыкаў, у дзейнасці якіх былі выяўлены парушэнні, склала 98%.

У выніку кантрольных мерапрыемстваў даналічана падаткаў, пені і адміністрацыйных штрафаў на суму 27,7 млрд. рублёў. Па выніках праверак у бюджэт Віцебскай вобласці падаткова паступіла 26,7 млрд. рублёў.

Акрамя таго, праведзенымі праверкамі абгрунтаванасці заліку (вяртання) падатку на дададзены кошт прадухілена 14,4 млрд. рублёў незаконнага вяртання падатку з бюджэту.

З агульнай колькасці дзейных суб'ектаў, правераных сёлета, 165 ажыццяўлялі дзейнасць без парушэнняў.

*Аляксей Арэшка, БелаПАН.*



Хто б мог падумаць яшчэ тры дзясяткі гадоў таму, што выраем для качак, нават лебедзяў, стане наш край. Яскравы прыклад глабальнага пацяплення. *Фота Jury.*

# У 2013 годзе плануецца зацвердзіць рэгіянальныя схемы размяшчэння асабліва ахоўных тэрыторый

**У 2013 годзе ў Беларусі плануецца зацвердзіць рэгіянальныя схемы рацыянальнага размяшчэння асабліва ахоўных прыродных тэрыторый (ААПТ) мясцовага значэння, паведаміў намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Анатоль Ліс 30 студзеня на калегіі Мінпрыроды ў Мінску.**

Паводле яго слоў, гэтыя схемы будуць з'яўляцца асновай развіцця сістэмы прыродаахоўных тэрыторый на мясцовым узроўні. Чакаецца, што яны дазволяць павялічыць колькасць ААПТ з 7,6% да 8,3% да 2015 года. Цяпер не ўсюды выконваюцца планы развіцця ААПТ, у трох абласцях адбылося зніжэнне іх плошчы, адзначыў намеснік міністра.

Як паведаміў Ліс, у 2012 годзе на рэспубліканскім узроўні ў адпаведнасці са схемай рацыянальнага размяшчэння асабліва ахоўных прыродных тэрыторый падрыхтаваны прадстаўленні па аб'яўленні і пераўтварэнні васьмі рэспубліканскіх заказнікаў, удакладнены рэжымы аховы і выкарыстання 73 заказнікаў у частцы выкарыстання сродкаў абароны раслін і іншых абмежаванняў.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

# У Беларусі зніжаецца смяротнасць насельніцтва

**У Беларусі зніжаецца смяротнасць насельніцтва, паведаміў міністр аховы здароўя Васіль Жарко 30 студзеня на пасяджэнні калегіі Міністэрства аховы здароўя па выніках 2012 года.**

Паводле яго слоў, у 2012 годзе смяротнасць знізілася на 9 тыс. чалавек у параўнанні з 2011 годам, нараджальнасць павялічылася 6 тыс. чалавек. Смяротнасць сярод асоб працаздольнага ўзросту паменшылася на 16%. Міністр звязвае гэта з паляпшэннем арганізацыі аказання медыцынскай дапамогі ў краіне, перааснашчэннем клінік, навучаннем і перанавучаннем кадраў.

Паводле слоў Жарко, удасканаленне медыцыны ў сферы аховы мацярынства і дзяцінства дазволіла знізіць дзіцячую смяротнасць да 3,4 праміле (на тысячу жываанароджаных). Паказчык дзіцячай смяротнасці складаў у 2011 годзе 3,9, у 2010 годзе — 4 праміле, а ў 2009 годзе — 4,7 праміле. Сярэднерэспубліканскі паказчык перавышае дзіцячая смяротнасць у Гомельскай вобласці (4,2), Віцебскай (3,8) і Брэсцкай (3,8).

Разам з тым у развітых еўрапейскіх краінах, паводле даных Міністэрства аховы здароўя, дзіцячая смяротнасць складае тры і менш праміле, а ў краіне-лідары па выхаванні немаўлят — Ісландыі — 1,9 праміле.

Паказчык мацярынскай смяротнасці склаў у 2012 годзе, як і ў 2011 годзе, 1 выпадак на 100 тыс. родаў.

*Алена Спасюк, БелаПАН.*

# Па росце спажывецкіх цэн у 2012 годзе Беларусь заняла першае месца сярод краін былога СССР

**Па росце спажывецкіх цэн у 2012 годзе Беларусь, як і годам раней, заняла першае месца сярод краін былога СССР, сведчыць праведзены БелаПАН аналіз даных нацыянальных органаў статыстыкі.**

Летась павелічэнне цэн склала ў Беларусі 21,8% (у 2011-м — 108,7%). Далей ідуць Кыргызстан — 7,5% (5,7%), Расія — 6,6% (6,1%), Таджыкістан — 6,4% (9,3%), Казахстан — 6% (7,4%), Туркменістан — 5,3% (5,3%), Малдова — 4,1% (7,8%), Эстонія — 3,5% (3,7%), Арменія — 3,2% (4,7%), Літва — 2,8% (3,4%), Латвія — 1,6% (4%).

Ва Украіне цэны знізіліся на 0,2% (+4,6%), у Азербайджане — на 0,3% (+5,4%), у Грузіі — на 1,4% (+2%). Даныя па Узбекістане пакуль недакладныя: рост цэн склаў «менш за 7%» (2011 год — 7,6%).

У снежні 2012 года Беларусь з 1,4% была трэцяй па росце цэн пасля Арменіі (2,1%) і Кыргызстана (1,5%). За імі размясціліся Азербайджан (0,7%), Казахстан (0,6%), Малдова, Расія (па 0,5%), Украіна (0,2%) і Таджыкістан (0,1%). Не змяніліся цэны ў Латвіі, знізіліся ў Літве, Эстоніі (па 0,1%) і Грузіі (0,3%). Няма звестак па Туркменістане і Узбекістане.

У самаабвешчанай Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспубліцы рост цэн у снежні склаў 0,8%, па выніках года — 10,4% (у 2011-м — 16%).

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*

# Паўстанне 1863 года ў Беларусі

## Да 150-годдзя паўстання



**Кліменцій Кожан,**
выпускнік Шкунціцкаўскай школы 1951 года,
м. Германавічы.

### Рэвалюцыйныя дэмакраты і шляхецкія рэвалюцыянеры

У сярэдзіне XIX стагоддзя Расія стаяла на парозе буржуазнай рэвалюцыі. Галоўнымі задачамі яе з'яўляліся дэмакратызацыя дзяржаўнага ладу, вырашэнне сялянскага і нацыянальнага пытанняў. Буржуазія з-за сваёй слабасці не праявіла сябе самастойнай палітычнай сілай. Ураду супрацьстаяла толькі група рэвалюцыйных дэмакратаў на чале з М. Чарнышэўскім, М. Бакуніным, А. Герцэнам, М. Агаровым, якія выступілі ідэолагамі ўсерасійскай сялянскай рэвалюцыі і спрабавалі стварыць партыю "Зямля і воля". З перамогай рэвалюцыі звязвалася ўстанаўленне народаўладдзя, перадача памешчыцкіх зямель сялянам, прадастаўленне прыгнечаным народам права на самавызначэнне свайго лёсу і стварэнне нацыянальных дзяржаў, рэалізацыя ўтапічнай ідэі пераходу да сацыялізму пры апоры на сялянскую абшчыну, ураўняльнае землекарыстанне і кааперацыю. Ідэі расійскіх рэвалюцыйных дэмакратаў падзялялі радыкальна настроеныя члены падпольных рэвалюцыйных гурткоў, створаных у Пецярбургу ўраджэнцамі беларуска-літоўскіх і польскіх губерняў. Сярод іх былі выдатныя сыны Беларусі Канстанцін Каліноўскі, Валерый Урублеўскі і іншыя.

Канстанцін (Кастусь) Каліноўскі нарадзіўся 21 студзеня (2 лютага) 1838 года ў Мастаўлянах Гродзенскага павета ў сям'і беззямельнага шляхціча. Бацька быў уладальнікам невялікай мануфактуры. З 1849 года сям'я жыла ў набытым фальварку Якушоўка недалёка ад мястэчка Свіслач Ваўкавыскага павета. У 1852 годзе Кастусь Каліноўскі скончыў Свіслацкую прагімназію, а ў 1860 годзе юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Там сфарміраваўся яго рэвалюцыйны светапогляд.

У сакавіку 1861 года Кастусь Каліноўскі вярнуўся на радзіму. Ён пачаў ствараць на Гродзеншчыне рэвалюцыйную арганізацыю, у якую ўвайшлі В. Урублеўскі, Ф. Ражанскі, І. Мілевіч, С. Сангін, Э. Заблоцкі і іншыя. Летам 1862 года Кастусь Каліноўскі стаў членам, а ў кастрычніку – старшынёй Літоўскага правінцыяльнага камітэта (ЛПК) у Вільні – цэнтра "чырвоных" на Літве і Беларусі, які ўзначаліў падрыхтоўку ўзброенага паўстання супраць царызму. Яно рыхтавалася ва ўзаемадзеянні з Варшаўскім Цэнтральным нацыянальным камітэтам (ЦНК) і з кіруючымі цэнтрамі "Зямлі і волі" ў Пецярбургу і Лондане.

Адзінства поглядаў на задачы паўстання не было. Расійскія рэвалюцыйныя дэмакраты на першае месца ў сваёй праграме вылучалі аграрнае пытанне. Сярод польскіх "чырвоных" – шляхецкіх рэвалюцыянераў – пераважала памяркоўная плынь. Яе прыхільнікі галоўную сваю задачу бачылі ў аднаўленні Рэчы Паспалітай у межах 1772 года, гэта значыць, з далучэннем да Польшчы былых "правінцый" – Літвы-Беларусі і Правабярэжнай Украіны. Аграрнае пытанне для іх было другарадным. Вырашалі яго так, каб прыцягнуць да паўстання і памешчыкаў, і сялян. Памешчыкам абяцалі захаваць іх маёнткі і аплаціць за кошт дзяржавы выдзеленыя для сялян землі, а сялянам – неадкладна перадаць ва ўласнасць атрыманыя па рэформе 19 лютага 1861 года надзелы без адбывання часоваабавязаных адносін і выкупных плацяжоў. Беззямельным сялянам за ўдзел у паўстанні абяцалі даць мізэрныя ўчасткі зямлі (3 моргі). На перагаворах з прадстаўнікамі ЦНК расійскія дэмакраты крытыкавалі абмежаванасць гэтай праграмы, яе нацыянальна-захопніцкія памкненні ў дачыненні да літоўцаў, беларусаў і украінцаў і папярэджвалі , што яна не атрымае падтрымкі ў Расіі. Выдаўцы "Колокола" настойвалі на ўключэнне ў праграму пытання безумоўнага права Літвы, Беларусі і Украіны на самавызначэнне свайго лёсу.

Кастусь Каліноўскі імкнуўся арганізаваць сялянскае паўстанне і выступаў за раздачу сялянам усіх зямель, у тым ліку і памешчыцкіх. Ён змагаўся за ўстанаўленне раўнапраўных адносін Варшавы і Вільні як цэнтраў падрыхтоўкі і кіраўніцтва паўстаннем, за дзяржаўную самастойнасць Літвы-Беларусі. Польскія нацыяналісты называлі Кастуся Каліноўскага "літоўскім сепаратыстам".



Кастусь Каліноўскі.

### "Мужыцкая праўда"

Летам 1862 года выйшаў першы нумар рэвалюцыйна-дэмакратычнай газеты "Мужыцкая праўда". Яе выданне арганізавалі К. Каліноўскі, В. Урублеўскі і Ф. Ражанскі. Друкавалася яна на беларускай мове лацінскім шрыфтам з дыялектнымі асаблівасцямі Гродзеншчыны. Складаныя грамадска-палітычныя і гістарычныя пытанні газета тлумачыла сцісла, паслядоўна, вобразна і зразумела для сялян. Да лета 1863 года выйшла 7 нумароў газеты. Сваім маленькім фарматам "Мужыцкая праўда" нагадвала лістоўку. Кожны нумар падпісваўся псеўданімам К. Каліноўскага "Яська, гаспадар з-пад Вільні".

Газета "Мужыцкая праўда" прапагандавала ідэю, што ніхто не дасць вольнасці мужыкам, што мужыкі павінны самі заваяваць яе і пабудаваць новы грамадскі парадак, які захочуць самі. Пра гэта гаварылася ў трэцім нумары: "Нам не маніхвестаў, а вольнасці патрэбна – і то вольнасці не такой, якую нам цар захоча даці, но якую мы самі, мужыкі, памеж сабою зрабімо. А для таго дзецюкі, каб ніхто вас не мог ашукаці, цяпер ужэ талкуйце памеж сабою, якой вам вольнасці патрэбна і якім адно спосабам мужык яе дастаць можа". К.Каліноўскі разлічваў на калектыўны розум, абачлівасць і справядлівасць сялянскай грамады, а не на стыхію і анархію. Ён выступаў за ўстанаўленне поўнага народаўладдзя, пра што сведчыць наступнае выказванне "Мужыцкай праўды": "І як добры слуга глядзіць худобы гаспадарскай і слухае свайго гаспадара, так добры ўрад глядзець павінен шчасця людзей, слухаць народу і рабіці так, як народові лепей. І не дзіва, бо не народ зроблены для ўрада, а ўрад для народа". К. Каліноўскі падкрэсліваў, што "мужык хоча, каб ніхто не смеў драці ні з кога".

У цэлым "Мужыцкая праўда" стаяла на сялянскіх пазіцыях. Аднак прамых заклікаў для захопу памешчыцкіх зямель, а таксама да барацьбы за дзяржаўную самастойнасць Літвы-Беларусі няма ні ў адным нумары газеты і ў іншых друкаваных адозвах і загадах К.Каліноўскага. Гэта тлумачыцца дыктатам Варшаўскага Цэнтральнага нацыянальнага камітэта, якім на пачатку кіравалі памяркоўныя "чырвоныя", а з канца лютага 1863 года "белыя" – прадстаўнікі буйных землеўласнікаў і буржуазіі. Яны далучыліся да паўстання, каб не дапусціць ператварэння яго ў сялянскую рэвалюцыю. Яны поўнасцю адвяргалі праграму К.Каліноўскага.

### Пачатак паўстання

Паўстанне ў Польшчы пачалося 10 (22) студзеня 1863 года без узгаднення з Літоўскім правінцыяльным камітэтам. У гэты дзень Варшаўскім ЦНК, які ператварыўся ў польскі нацыянальны ўрад, былі выдадзены Маніфест і два аграрныя дэкрэты, у якіх асвятляліся мэты і праграма паўстання. Патрабаванні рэвалюцыйных дэмакратаў Літвы-Беларусі і па аграрным і па нацыянальным пытаннях былі цалкам праігнараваны. Аграрнае пытанне вырашалася так, каб прыцягнуць да паўстання і памешчыкаў, і сялян. Замест падушнага падатку ўводзіўся ранейшы падымны падатак. 25-гадовая рэкруцкая павіннасць замянялася ўсеагульнай трохгадовай вайсковай службай у сваім краі, адмянялася забарона ўніяцкага веравызнання. Усё насельніцтва Польшчы "без адрознення веры, племені, паходжання і саслоўя" абвяшчалася свабоднымі і раўнапраўнымі грамадзянамі. Быў выдадзены спецыяльны зварот да насельніцтва Літвы і Беларусі з заклікам падтрымаць паўстанне ў Польшчы. Аднак аб праве "правінцый" былой Рэчы Паспалітай на самавызначэнне свайго лёсу не гаварылася нічога.

Ігнараванне Варшавай Віленскага паўстанцкага цэнтра, прынцыповыя разыходжанні па праграме барацьбы, стан падрыхтоўкі паўстання выклікалі ў Літоўскім правінцыяльным камітэце працяглыя ваганні па пытанні "Што рабіць у такой сітуацыі?" Нарэшце, 20 студзеня (1 лютага) перамаглі матывы салідарнасці. У гэты дзень ЛПК, ператварыўшыся ў Часовы ўрад Літвы і Беларусі на чале з К.Каліноўскім, выдаў Маніфест да насельніцтва краю з заклікам падтрымаць паўстанне ў Польшчы. Дзеля адзінства баявых дзеянняў ён паўтарыў у сваім Маніфесце праграму паўстання, аб'яўленую ў Варшаве. "Белыя", захапіўшы кіраўніцтва ў Польскім нацыянальным урадзе, 27 лютага (11 сакавіка) 1863 года адхілілі ад улады Часовы ўрад Літвы і Беларусі на чале з К.Каліноўскім і перадалі яе віленскаму камітэту "белых", які стаў называцца Аддзелам кіраўніцтва правінцыямі Літвы. Кастуся Каліноўскага прызначылі на пасаду Гродзенскага ваяводскага камісара.

Ад імя ЛПК К.Каліноўскі напісаў рэзкі пратэст супраць акцыі Варшаўскага ўрада. У заяве гаварылася, што члены камітэта лічаць "пагібеллю і здрадай рэвалюцыі перадачу кіраўніцтва ў рукі кантррэвалюцыянераў" і "здымаюць з сябе ўсялякую адказнасць перад будучыняй за ўсе памылкі і за ўсе страты і няшчасце, якія прынясе процілеглае духу і тэндэнцыям паўстання кіраўніцтва літоўскай справай". Камітэт заявіў, што ён падпарадкоўваецца "галаве паўстання", бо "па-першае, не жадае пачынаць згубных для рэвалюцыі разладаў і нязгодаў, па-другое, з-за таго, што не адчувае сябе дастаткова моцным, каб вырваць кіраўніцтва справамі з рук сваіх праціўнікаў".

Становішча К.Каліноўскага было трагічным. З прычыны слабасці рэвалюцыйна-дэмакратычных сіл ён вымушаны быў супрацоўнічаць з польскімі шляхецкімі рэвалюцыянерамі, а значыць, падпарадкоўвацца іх цэнтрам, дзейнічаць ад імя польскага нацыянальнага ўрада, прытрымлівацца ў афіцыйных дакументах устаноўленай гэтым урадам праграмы. У выпадку непадпарадкавання яго маглі абвясціць здраднікам і паступіць з ім па законах ваеннага часу.



Гродна, марш добраахвотнікаў. Гравюра часоў паўстання.

*Заканчэнне на стар. 11.*

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

# За 2012 год у парушальнікаў канфіскавана 350 м³ незаконна высечанай драўніны

Усе лясы ў Беларусі – уласнасць дзяржавы. Плошча ляснога фонду рэспублікі складае больш 9300 тысяч га. У лясах прыкметная перавага сасны звычайнай, яліны еўрапейскай, асіны, бяроз барадавістай і пухнатай, дуба чарэшчатага, алешыны чорнай і шэрай. Сустракаюцца вязы шурпаты і гладкі, граб звычайны, ліпа драбналістая і іншыя. Разнастайнасць лясоў Беларусі характарызуецца 111 тыпамі лесу абарыгенных лесаўтвараючых парод. Гэта 13 тыпаў хваёвых лясоў, 12 тыпаў ельнікаў. Шыракалісцевыя лясы прадстаўлены 7 тыпамі пакорных, 5 - поймавых дуброў і 7 тыпамі ясеннікаў.

Лясістасць тэрыторыі рэспублікі складае 37,7 %. Нягледзячы на ўсё гэта багацце, праблемай застаецца нізкая ўдзельная вага саспелых дрэвастоеў, нерацыянальная пародная структура лясоў, драпежніцкія адносіны да лесу. На тэрыторыі ўсёй вобласці поўным ходам ідзе праграма «чыстыя палі», што дазваляе павялічыць пасяўныя плошчы, добраўпарадкаваць палі і іх вонкавы выгляд, а насельніцтву і арганізацыям нарыхтаваць паліва.

Аднак, асобныя грамадзяне пад падставай ачысткі палёў ад хмызнякоў займаюцца незаконнымі рубкамі дрэў, пры гэтым высякаюць самыя лепшыя дрэвы, пакідаючы пасля сябе яшчэ вялікую захламленасць, такія факты супрацоўнікамі міжрайінспекцыі будуць неадкладна спыняцца.

Так, 30 студзеня 2013 года жыхар Глыбоцкага раёна грамадзянін П., у лясным масіве Узрэцкага лясніцтва ГЛХУ «Глыбоцкі доследны лягсас» незаконна высек 1,5 м.куб. драўніны, але быў затрыманы супрацоўнікамі інспекцыі, якія склалі адміністрацыйны пратакол. За мінулы 2012 год супрацоўнікамі міжрайінспекцыі ў парушальнікаў канфіскавана 350 м.куб. незаконна высечанай драўніны, спынена больш 70 парушэнняў ляснога заканадаўства.

Таксама маюцца факты, калі пры нарыхтоўцы дроў грамадзяне парушаюць правілы рубкі дрэў, што прыводзіць да абрыву электраправадоў, а адпаведна і да штрафных санкцый з боку Раённых электрычных сетак і міжрайінспекцыі.

Нярэдкія выпадкі вывазкі драўніны без неабходных дакументаў або без адзнакі службовай асобы лягсаса пра водпуск драўніны, такія парушэнні супрацоўнікамі інспекцыі перарываюцца, а вінаватыя нясуць адказнасць.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі заклікаюць грамадзян, якія ўдзельнічаюць у ачыстцы палёў ад хмызнякоў, асцярожна ставіцца да прыроды і якасна праводзіць ачыстку палёў не толькі ад дрэў, але і высякаць хмызнякі. Пры абследаванні асобных участкаў правядзення рубак вельмі часта можна назіраць, як высякаюцца толькі дрэвы, якія падыходзяць на дровы, а хмызнякі застаюцца. Навошта тады праводзіць такую ачыстку? За парушэнні правіл распрацоўкі адказныя асобы будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156-2-86-70, маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

## «Бяспеку – у кожны дом!»

### з 4 па 28 лютага 2013 года

Асноўнымі прычынамі ўзнікнення надзвычайных сітуацый у жылым сектары па-ранейшаму застаюцца – неасцярожнае абыходжанне з агнём, парушэнне правіл эксплуатацыі пячнога ацяплення і электраабсталявання, дзіцячае свавольства з агнём. Пажар у кватэры ці доме ў большасці выпадкаў – вынік абыякавасці і грэбавання элементарнымі правіламі бяспекі. З мэтай папярэджання пажараў і гібелі людзей ад іх з 4 па 28 лютага ў рэспубліцы пройдзе прафілактычная акцыя «Бяспеку – у кожны дом!».

У рамках правядзення дадзенай акцыі на тэрыторыі Глыбоцкага раёна праводзіцца вялікі аб'ём прафілактычных работ. У прыватнасці работнікі Глыбоцкага РАНС наведваюць прыватныя домаўладанні, кватэры, правяраюць выкананні нормаў і правілаў пажарнай бяспекі. Пры правядзенні абследванняў з жыхарамі праводзяцца інструктажы на супрацьпажарную тэматыку, прафілактычныя гутаркі.

*А. Андрыеўскі,*
*інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС, старэйшы лейтэнант унутранай службы.*

## Марына Шкерманкова атрымала званне «Чалавек года Віцебшчыны»

**Бронзавы прызёр XXX Алімпійскіх гульняў у Лондане штангістка Марына Шкерманкова ўдастоена сёння ганаровага звання «Чалавек года Віцебшчыны», перадае БЕЛТА.**

Марына Шкерманкова заняла трэцяе месца ў спаборніцтвах па цяжкай атлетыцы ў вагавай катэгорыі да 69 кг і прынесла першы медаль у скарбонку Алімпійскай зборнай на мінулых гульнях. Сёння яна спартсмен-інструктар другога аддзела дзяржаўнай установы «Спартыўны камітэт Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь». Спартсменка з'яўляецца майстрам спорту Рэспублікі Беларусь міжнароднага класа па цяжкай атлетыцы, прызёрам першынства свету па цяжкай атлетыцы, удзельнікам чэмпіянату свету па цяжкай атлетыцы (5-е месца) і членам зборнай каманды Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Уладальніца бронзавага медаля Алімпійскіх гульняў трэніруецца пад кіраўніцтвам трэнера зборнай каманды Узброеных Сіл прапаршчыка Паўла Гаркавога і асабістага трэнера Уладзіміра Вінніка, які разам са сваёй вучаніцай таксама стаў лаўрэатам ганаровага звання «Чалавек года Віцебшчыны».

Разам са спартовай кар'ерай Марына актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці, займаецца дабрачыннасцю.

Ганаровага звання «Чалавек года Віцебшчыны» ўдастоены 100 жыхароў Віцебскай вобласці. Яны заахвочаны за вялікі асабісты ўклад у сацыяльна-эканамічнае развіццё рэгіёну, за паспяховы і самаадданы дзеянні па выратаванні людзей, забеспячэнні законнасці і правапарадку, высокія дасягненні ў галіне навукі, адукацыі, культуры, спорце, актыўную грамадзянскую пазіцыю і грамадскую дзейнасць, а таксама за іншыя дасягненні, якія прынеслі вядомасць Віцебскай вобласці і якія атрымалі прызнанне грамадства. Сярод іх рабочыя і кіраўнікі прадпрыемстваў, трактарысты-машыністы, галоўны аграном, прадпрымальнікі і будаўнікі, настаўнікі, лекары, журналісты.

Цырымонія ўшанавання удастоеных ганаровага звання прайшла на ўрачыстым сходзе ў гонар 75-годдзя ўтварэння Віцебскай вобласці.

*Крыніца: БЕЛТА*

## Крыху з гісторыі!

Забарона ў Расіі на курэнне, а таксама і на продаж тытуню быў зняты Указам Пятра І у 1697 годзе. Не толькі таму, што цар заахвоціўся да курэння сам. Галоўнае – дзяржаўная скарбонка атрымлівала каласальныя прыбыткі ў выглядзе мыт ад курцоў за продаж тытуню. Тады і пачалося ў Расіі масавае курэнне ў войску, на флоце, паліць сталі і грамадзянскія людзі.

Калі тытунь быў завезены ў краіну, купцы на ўсе лады сталі расхвальваць свой тавар. Яны запэўнівалі, што тыя, якія кураць, маюць шмат пераваг перад тымі, што не кураць: першыя, маўляў, не старэюць, да іх уночы не залазіць злодзей, яго ніколі не пакусае сабака і што тыя, якія кураць, будуць жыць у новым доме.

Слухалі людзі і дзівіліся такім цудам. Праўду ці не праўду распавядаюць?

Вырашылі спытаць мудраца. Доўга думаў той, а потым сказаў: «Купцы кажуць праўду. Падумайце самі, ці можа пастарэць той, які паліць. Вядома, не. Ён памірае ад тытуню ззамаладу. А хіба злодзей палезе ў хату да курца, калі той усю ноч кашляе і дрэнна спіць. А сабакі не кусаюць таго, які паліць таму, што ў яго рана пачынаюць хварэць суставы і яму даводзіцца хадзіць з палкай... І апошняе – пра новы дом – таксама правільна. Ад курэння ўзнікаюць пажары, і курцу волей-прымусам даводзіцца будаваць новы дом».

Вядома ж – жарт.

Не думайце, што кажам мы ўсё гэта дзеля слова. Справа ў тым, што штогод у вобласці адбываецца ад неасцярожнага звароту з агнём і курэння шмат пажараў. Па гэтай прычыне гінуць людзі і сярод іх дзеці.

Таварышы, якія кураць! Любая нядбайнасць з цыгарэтай можа прывесці да пажару.

**БУДЗЬЦЕ АСЦЯРОЖНЫЯ І ЎВАЖЛІВЫЯ З АГНЁМ! ПРЫ ПАЖАРЫ ТЭЛЕФАНУЙЦЕ: 101!**



## Бюджэт пражытачнага мінімуму ў Беларусі павялічаны на 5%

**З 1 лютага бюджэт пражытачнага мінімуму (БПМ) у Беларусі павялічаны на 5% і складае 924.150 рублёў.**

З 1 лістапада 2012 года па 31 студзеня 2013-га БПМ складаў 880.030 рублёў.

Згодна з пастановай урада, новы БПМ, разлічаны ў сярэднім на душу насельніцтва па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах у цэнах снежня 2012 года, будзе дзейнічаць да 30 красавіка 2013 года ўключна.

Для працаздольнага насельніцтва БПМ устаноўлены ў памеры 1.014.180 рублёў у месяц, для пенсіянераў — 763.800, для дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў — 795.760, дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў — 973.410, дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў — 1.041.240, дзяцей-студэнтаў — 937.770.

У структуры БПМ асноўны артыкул расходаў займаюць прадукты харчавання — 56,8%. Затым ідуць: плата за карыстанне жылым памяшканнем і камунальныя паслугі — 7,8%, прадметы гардэробу — 21%, тавары бытавога і гаспадарчага прызначэння — 4,6%, прадметы першай неабходнасці, санітарыі і лекі — 2,5%, бытавыя і транспартныя паслугі — 5,2%, узносы і плацяжы — 2,2%.

У сувязі з 5-працэнтным павышэннем БПМ з лютага павялічваюцца памеры працоўных мінімальных і сацыяльных пенсій, а таксама надбаўкі і павышэнні, устаноўленыя да пенсій асобных катэгорый пенсіянераў. На такую ж велічыню ўзрастуць памеры некаторых відаў дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей.

Бюджэт пражытачнага мінімуму штоквартальна зацвярджаецца ўрадам у цэнах апошняга месяца кожнага квартала. У адпаведнасці з законам «Аб пражытачным мінімуме ў Рэспубліцы Беларусь» БПМ прызначаны для аналізу і прагназавання ўзроўню жыцця насельніцтва, аказання дзяржаўнай сацыяльнай дапамогі малазабяспечаным грамадзянам (сем'ям), абгрунтавання мінімальных дзяржаўных сацыяльна-працоўных гарантый.

БПМ уяўляе сабой цэнавую велічыню мінімальнага набору матэрыяльных даброт і паслуг, неабходных для забеспячэння жыццядзейнасці чалавека і захавання яго здароўя, а таксама абавязковыя плацяжы і ўзносы. Для працаздольнага насельніцтва БПМ прымяняецца для вызначэння сумы ўтрымання сродкаў з наймальнікаў, якія маюць запазычанасць па выплаце заработнай платы, і базавага межавага нарматыву тарыфнай стаўкі першага разраду для камерцыйных арганізацый дзяржаўнай формы ўласнасці і з доляй уласнасці дзяржавы ў іх маёмасці.

*БелаПАН.*



## МНС інфармуе

**на 05.02.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 130;
Гібель людзей – 33, з іх 1 дзіця;
Урон – 588.9 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 7;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 85.8 млн. руб.

Заканчэнне. Пачатак на стар.5.

# Паўстанне 1863 года ў Беларусі

## Да 150-годдзя паўстання

Абмежаваная праграма паўстання выключала магчымасць шырокага ўдзелу ў ім сялянства, асабліва на Беларусі і ў Літве, для якога быў зусім чужы лозунг польскіх шляхецкіх рэвалюцыянераў аб аднаўленні Рэчы Паспалітай у межах 1772 года. Сярод расійскай грамадскасці гэты лозунг выклікаў небывалы ўздым шавінізму. Праз дзяржаўныя ўстановы, царкву, школу, друк шавіністычная хваля шырока распаўсюджвалася ў народных масах Расіі і паралізавала агітацыю рэвалюцыйных дэмакратаў, перакрэсліла іх надзеі на ўсерасійскае сялянскае паўстанне. Гэтым прадрашаўся і лёс паўстання ў Польшчы, Літве і на Беларусі. Спадзяванні паўстанцаў на дапамогу заходніх дзяржаў не спраўдзіліся. Паўстанне было асуджана на паражэнне.

Адзінага плана баявых дзеянняў у паўстанцаў не было.Назіраліся спробы ўзаемадзеяння атрадаў у асобных губернях (ваяводствах), але яны, як правіла, заканчваліся беспаспяхова. Многія атрады былі разбіты царскімі карнікамі на самым пачатку фарміравання. Адносны поспех спадарожнічаў выступленню атрада Людвіка Звяждоўскага, прызначанага кіраўніком паўстанцкіх сіл у Магілёўскай губерні. З дапамогай студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута яму ў ноч з 23 на 24 красавіка 1863 года ўдалося захапіць павятовы горад Горкі. Аднак мясцовыя сяляне не падтрымалі паўстанцаў і атрад Звяждоўскага неўзабаве быў разбіты.

У многіх месцах Магілёўскай і Віцебскай губерняў сяляне, падманутыя агітацыяй уладаў і праваслаўнага духавенства, дапамагалі карнікам лавіць паўстанцаў, грамілі маёнткі польскіх памешчыкаў. Слабаарганізаванымі былі дзеянні паўстанцаў у Мінскай губерні. Адносна значную падтрымку сярод сялян паўстанцы мелі на Гродзеншчыне і Віленшчыне.

На Беларусі сяляне складалі толькі 18% сярод удзельнікаў паўстання. Затое ўдзельная вага шляхты, у большасці беззямельнай і дробнапамеснай, дасягала 75%. Гэтыя даныя не дазваляюць называць паўстанне 1863 года на Беларусі як сялянскае.

У Гродзенскай губерні вясной 1863 года дзейнічалі 5 паўстанцкіх атрадаў, у якіх налічвалася амаль 1700 чалавек. У маі яны правялі больш за 20 баёў з царскімі войскамі. З-за недахопу сіл паўстанцы выкарыстоўвалі тактыку партызанскай барацьбы. Адзін з найбольш значных баёў адбыўся 21 мая каля мястэчка Мілавіды Слонімскага павета. У ім удзельнічалі каля 800 паўстанцаў і 5 рот салдат, якія мелі чатыры гарматы. Карнікі не змаглі ўзяць лагер паўстанцаў і з вялікімі стратамі адышлі. Поспехі паўстанцаў на Гродзеншчыне ў значнай меры былі абумоўлены самаахвярнай дзейнасцю К.Каліноўскага на пасадзе ваяводскага камісара.

### Падаўленне паўстання

Падаўленнем паўстання на тэрыторыі Беларусі і Літвы з сярэдзіны мая 1863 года кіраваў новы віленскі генерал-губернатар М.М.Мураўёў, які атрымаў ад Аляксандра II надзвычайныя паўнамоцтвы. Жорсткімі рэпрэсіямі ён прымусіў "белых" памешчыкаў і вышэйшае каталіцкае духавенства адмовіцца ад падтрымкі паўстання. Яны павінны былі падпісаць вернападданніцкія адрасы на імя цара. Многія актыўныя дзеячы былі арыштаваныя, расстраляныя або павешаныя. Замены ім не знаходзілася.

У такіх умовах К.Каліноўскі ў пачатку чэрвеня 1863 года зноў быў запрошаны ў Вільню. 31 ліпеня ён узначаліў аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы, а 22 жніўня яму перадалі і паўнамоцтвы камісара Варшаўскага ўрада ў Вільні. К канцу лета 1863 года ў руках К.Каліноўскага сканцэнтравалася ўся паўната ўлады ў паўстанцкай арганізацыі на тэрыторыі Беларусі і Літвы. Ён прымаў рашучыя захады па мабілізацыі сіл на адпор ворагу, аднак дабіцца пераломy ў ходзе барацьбы не змог. Да пачатку верасня 1863 года ў Беларусі і Літве паўстанне было практычна падаўлена.

К.Каліноўскі пратрымаўся на волі да канца студзеня 1864 года, імкнучыся захаваць падпольную арганізацыю на Беларусі і ў Літве і рэшткі ўзброеных сіл з мэтай падрыхтаваць да вясны 1864 года новае паўстанне. Але ён быў выдадзены здраднікам і трапіў у рукі карнікаў.

У турме К.Каліноўскі напісаў і перадаў на волю пісьмо-зварот да свайго народа. Яго мэта выказана ў першых радках: "…Пісьмо адрукуйце, каб знаў свет Божы, як мужыкі Беларусі глядзяць на Маскалёў і паўстанне польскае, чаго хочуць і чаго па сваёй сіле дабівацца будуць". К. Каліноўскі далучаў сябе да "мужыкоў Беларусаў", гаварыў ад іх імя. З пісьма вынікала, што ні маскоўскі, ні польскі (часоў Рэчы Паспалітай) урады не прызнаваліся Каліноўскім сваімі для беларусаў. Свой урад павінен быў сфарміравацца ў ходзе паўстання народа за волю і шчасце. У перадсмяротным пісьме К.Каліноўскі раіў свайму народу не чакаць дапамогі з боку польскага ўрада і іншых народаў, заклікаў ісці "ваяваць за свайго Бога, за сваё правы, за сваю хвалу, за сваю Бацькаўшчыну". К.Каліноўскі папярэджваў "братоў", "мужыкоў родных", што яны не дачакаюцца шчасця ў маскоўскай няволі.

Ваенна-палявы суд прыгаварыў К.Каліноўскага да расстрэлу, але Мураўёў замяніў гэта пакаранне павешаннем, якое адбылося 10 (22) сакавіка 1864 года ў Вільні публічна, у прысутнасці масы людзей. Стоячы перад шыбеніцай, К.Каліноўскі знайшоў у сябе сілы і волю яшчэ раз выказаць свае ідэйныя перакананні. Калі яго ў судовым прыгаворы назвалі "дваранінам", мужны сын беларускага народа заявіў: "У нас няма дваран, усе роўныя".



Татуіроўкі Каліноўскага, які аддаў жыццё за ідэю, набіваюць сёння на грудзі юнакі.

Царызм рукамі Мураўёва-вешальніка жорстка расправіўся з удзельнікамі паўстання. Паводле афіцыйных даных, што датычаць Беларусі і Літвы , 128 чалавек былі пакараны смерцю, 12483 асобы высланы за межы радзімы – на катаргу і пасяленне ў Сібір, у арыштанцкія роты і г.д. Маёнткі памешчыкаў, што мелі дачыненне да паўстання, былі канфіскаваны ў казну і на вельмі ільготных умовах прадаваліся царскім генералам і чыноўнікам, выхадцам з цэнтральных губерняў. Усе астатнія мясцовыя памешчыкі былі абкладзены кантрыбуцыяй. Закрываліся або пераўтвараліся ў праваслаўныя цэрквы многія касцёлы. За ўдзел студэнтаў у паўстанні ўлады закрылі адзіную на Беларусі вышэйшую навучальную ўстанову – Горы-Горацкі земляробчы інстытут, скарацілі колькасць сярэдніх навучальных устаноў. Кадры мясцовых настаўнікаў, медыцынскіх работнікаў, землямераў і іншых былі пераведзены на службу ў цэнтральныя губерні, а на іх месца прысланы новыя, якім царызм давяраў рэалізацыю сваёй палітыкі ў краі. На Беларусі і ў Літве былі ўстаноўлены рэжым надзвычайных законаў.

### Значэнне паўстання

У паўстанні 1863 года праявіліся мужнасць, рашучасць, самаахвярнасць лепшых сыноў Беларусі ў змаганні за волю і шчасце народа. Сярод іх як сапраўдны нацыянальны герой вылучыўся К.Каліноўскі. З яго дзейнасцю звязана перарастанне напярэдадні і ў час паўстання беларускага нацыянальна-культурнага руху ў палітычны, у барацьбу за дзяржаўнасць Беларусі ў форме народаўладдзя, пры якой урад быў бы добрым слугой народа. Упершыню была сфармулявана рэвалюцыйная праграма, якая зыходзіла з інтарэсаў сялян і была размежавана з ажыццяўленне сіламі сялянства. Аднак у кіраўніцтве паўстаннем верх атрымалі польскія нацыяналістычна настроеныя шляхецкія рэвалюцыянеры. Абмежаваная афіцыйная праграма паўстання і царысцкія ілюзіі ў вёсцы прычыніліся да таго, што большасць сялян не толькі не падтрымала паўстанцаў, але і выступіла супраць іх. Гэта з’явілася адной з прычын паражэння паўстання. Тым не менш, дзякуючы яму, сяляне Беларусі атрымалі ад урада значныя ўступкі ў ходзе рэалізацыі рэформы 1861 года, якія істотна аблягчылі іх становішча.

Пасля падаўлення паўстання ў гісторыі Беларусі пачалася змрочная паласа рэакцыі і татальнай русіфікацыі. Жорсткімі рэпрэсіямі былі знішчаны тыя парасткі нацыянальнага адраджэння, якія з’явіліся ў 40-50-я гады XIX стагоддзя. На некалькі дзесяцігоддзяў быў забыты нават К.Каліноўскі. Толькі ў пачатку 20-х гадоў XX стагоддзя ён заняў належнае месца ў гісторыі свайго народа. На яго прыкладзе можна зрабіць выснову: здзейсненае дзеля дабра народа не забываецца народам.

***

У Польшчы 150-годдзе паўстання 1863-1864 гадоў адзначаецца вельмі шырока. Ганаровы патранат над мерапрыемствамі, звязанымі са святкаваннем гэтай важнай гістарычнай падзеі прыняў прэзідэнт Рэспублікі Польшчы Браніслаў Камароўскі. У розных мерапрыемствах, прысвечаных гэтай падзеі, якія будуць адбывацца на працягу ўсяго 2013 года , акрамя прэзідэнта прымуць удзел прадстаўнікі вышэйшых дзяржаўных органаў улады – старшыні Сейма і Сената Польшчы, прадстаўнікі Савета аховы памяці барацьбы і пакутніцтва, Міністэрства нацыянальнай абароны і шматлікіх таварыстваў і арганізацый. 22 студзеня на месцы пахавання паўстанцаў на ваенных могілках у Варшаве адбылася пераклічка загінуўшых, а таксама ўскладанне кветак і запальванне лампад. У мерапрыемстве прыняў удзел прэзідэнт Польшчы і прадстаўнікі краін, на тэрыторыі якіх адбываліся баі: Літвы, Латвіі, Беларусі і Украіны.

"У 1863 годзе людзі розных моў, культур і рэлігій разам пайшлі ў бой за свабоду," – сказаў прэзідэнт Польшчы Браніслаў Камароўскі ў час ускладання вянкоў да помніка паўстанцам 1863 года на могілках Павонзкі ў Варшаве.

"Паўстанне 1863 года было апошнім акордам супольнага змагання за свабоду ўсіх народаў, якія некалі ўтваралі супольную дзяржаву, а пасля разам арганізавалі барацьбу за вызваленне. На помніку ёсць герб Польшчы і ёсць герб "Пагоня", і ёсць герб Расіі," – адзначыў прэзідэнт Польшчы.

Ва ўшанаванні бралі ўдзел прадстаўнікі дзяржаўных улад Польшчы і духавенства розных канфесій. Свечкі прынесла таксама моладзь і прадстаўнікі беларускай, украінскай і літоўскай дыяспар у Польшчы. У цырымоніі ўдзельнічаў таксама пасол Беларусі ў Польшчы Віктар Гайсёнак, паслы Літвы, Украіны і Часовы паверены ў справах Латвіі.

На цырымоніі прысутнічалі беларусы Варшавы з бел-чырвона-белым сцягам. Цэнтр беларускай культуры ў Варшаве рыхтуе выставу да 150-годдзя паўстання.

Святочныя мерапрыемствы былі запланаваны таксама на тэрыторыі Беларусі. З гэтай нагоды Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь Лешак Шарэпка 22 студзеня пабываў у Свіслачы, дзе ўсклаў вянкі да помнікаў Рамуальду Траўгуту і Кастусю Каліноўскаму. Прыняць ўдзел у мерапрыемстве былі запрошаны прадстаўнікі пасольстваў Літвы, Латвіі і Украіны. Акрамя таго, у гэтыя дні прадстаўнікі польскіх консульскіх аддзелаў наведвалі магілы і памятныя месцы паўстанцаў па ўсёй Беларусі, прыводзілі іх у парадак, запальвалі лампады.

Аб запланаваных святочных мерапрыемствах Пасольства Польшчы ў Мінску праінфармавала беларускія ўлады і запрасіла іх прыняць удзел у святкаванні 150-годдзя паўстання 1863-1864 гадоў, таму што агульная гісторыя павінна аб’ядноўваць, а не раздзяляць суседнія народы. Але як напісала газета "Народная Воля" (22 студзеня 2013 года, №6), "беларускія ўлады робяць выгляд, што не было такой падзеі ў нашай гісторыі".

Паўстанне 1863-1864 гадоў было адным з найбольш працяглых і масавых вызваленчых рухаў у XIX стагоддзі. Загінулі каля 30 тысяч чалавек, а пасля падаўлення паўстання больш за 40 тысяч яго ўдзельнікаў былі сасланы ў Сібір.

Рада аховы памяці аб барацьбе і пакутніцтве Польшчы вядзе пошук месцаў пахавання ўдзельнікаў Студзеньскага паўстання.

На тэрыторыі Польшчы знаходзіцца больш за 600 аб’ектаў, звязаных з паўстаннем. Сярод іх 19 могілак, 397 брацкіх магіл і 123 індывідуальныя магілы. Аднак яшчэ шмат месцаў, якія невядомыя па сённяшні дзень. Загінуўшых часта хавалі не на месцы гібелі. Расійскія ўлады ўтойвалі месцы пахавання пакараных ці забітых паўстанцаў.

Рада аховы памяці аб барацьбе і пакутніцтве вядзе пошук магіл паўстанцаў як на тэрыторыі Польшчы, так і на тэрыторыі Літвы, Латвіі і Беларусі.

Карэспандэнт "Народнай Волі" Марына Коктыш задала пытанне пісьменніку і гісторыку Уладзіміру Арлову: "На Вашу думку, ці павінны такія гучныя гістарычныя даты адзначацца ў Беларусі на больш высокім узроўні, з шырокім прыцягненнем увагі грамадскасці?" Пісьменнік адказаў: "Я перакананы, што прыйдзе час, калі такія даты будуць у нашым дзяржаўным календары".

### Самыя вядомыя выказванні Каліноўскага

■ Не народ для ўрада, а ўрад для народа.

■ Дык сейце ж, дзецюкі, як прыйдзе пара поўнаю рукою – не шкадуйце працы, - каб і мужык быў чалавекам вольным, як ёсць на цалюткім свеце.

■ У нас, дзецюкі, суды – гэта воўчая яма, дзе не разбіраюць, ці за табой праўда, ці не. Бяспекі ніякай няма, хто дужэйшы, той і глуміць; а войска то не для таго трымаюць, каб аберагалі кожнага ад злых людзей, а для таго, каб не дазволіць народу і застагнаць, калі пазнае сваю няволю, калі згледзіцца, што дзяруць з яго апошнія сілы.

**"Мужыцкая праўда", якая выдавалася паўстанцамі ў лясах.**

*З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці, і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, - але не жаль згінуць за тваю праўду.*

*Прымі, народзе, па шчырасці маё слова прадсмертнае, бо яно, як з таго свету, толькі для дабра твайго напісана.*

*Няма ж, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тады ён толькі можа жыць у багацці, праўдзе, тады ён толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць неба, калі збагаціць навукай розум, разаўе сэрца і родны цэлую сэрцам палюбіць. Але як дзень з ноччу не ходзіць разам, так не ідзе разам навука праўдзівая з няволяй маскоўскай. Датуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацця і ніякай навукі, – адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, але на пагібель нашу.*

*Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжэ не будзе.*

**Твой слуга.**

**Яська-гаспадар з-пад Вільні.**

*"Лісты з-пад шыбеніцы", напісаныя з турмы.*

## УСМІХНІЦЕСЯ

У маладых заканчваецца мядовы месяц. Жонка навapыла есці. А муж пачынае круціць носам, маўляў, нясмачна.

— А ты хіба забыў, як перад вяселлем казаў, што за мяне гатоў памерці? — дакарае жонка.

— Так і быць, — адказвае муж, хрысцячыся. — Давай свае пельмені!

****

-Твой боршч зусім нясмачны!
Мо што не так зрабіла часам?
- Ды я душу ў яго ўсю ўклала!
- Ты б, зрэшты, лепш паклала мяса!

****

- Каханы, ты не бачыў кнігу «Як пражыць да ста гадоў»?
- Я яе спаліў!
- Навошта?
- Твая мама вельмі хацела яе прачытаць!

***

- Алё, гэта морг?
- Не, гэта лазня .
- А мне патрэбны морг.
- Памыліся б спачатку.

